

*Жыве Беларусь!*

# ПАГОНЯ

*Грамадзка-палітычная газэта*

*№ 3, пятніца, 15 мая 1992г.* *Кошт 1 руб.*

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

**Раённы фонд разьвіцьця культуры і мастацтва вырашылі стварыць у Дзятлаве.**

**На спэцыяльны рахунак у мясцовым аддзяленьні банку будуць пастУпаць грошы ад фундатараў, а таксама ад аукцыёнаў, латарэй, камэрцыйнай дзейнасьці клюбаў і Дамоў культуры раёну.**

* * *

**Аб наборы на падрыхтоўчыя курсы аб ´явіла беларускае аддзяленьне факультэту славістыкі Віленскага пэдагагічнага інстытуту. Адкрылася аддзяленьне летась і рыхтуе настаўнікаў па дзьвюх спэцыяльнасьцях: «Беларуская мова і літаратура» і «Мэтодыка пачатковага навучаньня».**

* * *

**На ваяводзкай алімпіядзе школьнікаў па экалягічнай тэматыцы ў Беластоку лепшыя веды паказаў Артур Герасімук зь беларускамоўнага ліцэю ў Бельску-Падляскім. Ён стаў пераможцам алімпіяды і атрымаў каштоўны падарунак.**

* * *

**У пяці гаспадарках Іўеўскага раёну працуюць цяпер меліяратары зь Летувы. Робяць яны добрую справу — пашыраюць плошчы пад кармавыя травы і іншыя культуры. А ў беларускіх гаспадарнікаў свой, новы галаўны боль: чым плаціць суседзям за працу! Калгасы раёну ледзьве трымаюцца «на плаву», зараз спадзяваньні — на дапамогу вобласьці.**

* * *

**Мэмарыяльная дошка, прысьвечаная Яну Каханоўскаму, зьявілася на будынку Гарадзенскага заапарку. Ян Каханоўскі — сьціплы настаўнік біялёгіі гімназіі імя Адама Міцкевіча — увайшоў у гісторыю як заснавальнік нашага заапарку. Пяцьдзесят гадоў таму, у 1942 годзе, ён трагічна загінуў — быў расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.**

## ЗЭЛЬВА — РАСЕЙСКІ ВОСТРАЎ

«Дзяржаўнай» мовай Зэльвы на неакрэсьлены час застаецца расейская, прычына таму — цяжкае эканамічнае становішча мястэчка.

Дырэктар вытворчага аб ´яднаньня жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Віктар Аляксандравіч Васіліцкі паведаміў на сэсыі дэпутатам, што грошай катастраф-

**Праблема?**

ічна мала, а выраб толькі адной шыльды з назвай вуліцы на беларускай (ці роднай?) мове каштуе 144 рублі ў старых цэнах. У Зэльве ж вуліц і завулкаў ажно... каля 45. Акрамя таго, дырэктар паскардзіўся на бядотнае становішча і з добраўпарадкаваньнем, у прыватнасьці, асфальтаваньнем вуліц пасёлку.

**Пятро ЖЭБРАК.**

## ВЫШЭЙШЫ ПІЛАТАЖ ЗА 180 МІЛЬЁНАЎ РУБЛЁЎ

Такога лідчане яшчэ ня бачылі. 8 мая ў 9.30 раніцы над лётнішчам Ліды пачалося грандыёзнае авіяцыйнае прадстаўленьне. Лепшыя ў сьвеце лётчыкі-пілатажнікі, асы паветраных сілаў дэманстравалі сваё майстэрства. На свае вочы людзі ўбачылі, як ажыцьцяўляецца дазапраўка баявых машын у паветры, палёты на вышыні ад пяці да 1500 мэтраў над зямлёю і шмат іншага.

Гэта грандыёзнае шоу было прысьвечанае юбілею першага гвардзейскага злучэньня авіятараў і 47-м угодкам Перамогі. І абыйшлося яно падаткаплацельшчыкам (па неафіцыйных дадзеных) у 180 мільёнаў рублёў. Што й казаць, народ заўсёды патрабаваў хлеба і відовішчаў. Калі не хапае хлеба, на першае месца выступаюць, зразумела, відовішчы. Прападаць, дык з музыкай!

**(Уласн. інф.)**



## ЭКОЛЯГІ БЕЛАРУСІ І ЛЕТУВЫ СУСТРЭЛІСЯ Ў ГАРОДНІ

Па-новаму наладжваюць свае ўзаемаадносіны Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка, адзін з аспэктаў такіх узаемаадносін — экалёгія.

Беларусаў, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы, востра непакоіць сытуацыя зь Ігналінскай атамнай электрастанцыяй, асабліва пасьля нядаўняга здарэньня на аднатыпнай АЭС у Сасновым Бары. Яшчэ адна праблема — выкіды ў атмасфэру прадпрыемстваў Вільні, зь ветрам яны пераносяцца на значныя адлегласьці і расьсяваюцца ў прыгранічных раёнах Беларусі.

Літоўскі ж бок непакояць рэкі — Вілія і Нёман, якія ад нас працягваюць свой бег да мора па землях Літоўскай Рэспублікі. Суседзі, зразумела, хацелі б, каб рэкі былі як мага чысьцейшыя.

Есьць і іншыя праблемы, якія патрабуюць сёньня ўзаемадзеяньня эколягаў дзьвёх дзяржаў. І вось такая рабочая сустрэча прайшла днямі ў Гародні. Узначальвалі дэлегацыі сп. Раполас Люжынас, намесьнік генэральнага дырэктара дэпартаменту па ахове навакольнага асяроддзя ЛР, і Аляксандар Бядэнка, першы намесьнік старшыні Дзяржкамэкалёгіі РБ. Пасьля ўсебаковага абмеркаваньня быў падпісаны пратакол сустрэчы. Ён прадугледжвае абмен апэратыўнай і навуковай інфармацыяй. Літоўцы і беларусы, як і раней, будуць узаемна інфармаваць аб аварыйных выкідах, забруджваньні атмасфэры паветра.

Чарговая сустрэча эколягаў Беларусі і Летувы заплянаваная на канец мая.

**Д. МІХАЙЛАЎ.**

## АХВЯРА БЕЛАСТОЦКІХ МЭЦЭНАТАЎ

Зьнікла кампартыя — і пачалі адраджацца народныя традыцыі, набіраць сваё пашана да старадаўняй веры ў Бога. Мала-памалу рэстаўруюцца касьцёлы, цэрквы, сынагогі. Сродкі на іх аднаўленьне ахвяруюць самыя вернікі. Праўда, рост кошту матар ´ялаў замінае стваральнай працы, а часам робіць яе немагчымай. Тады адна надзея на мэцэнатаў. І яны знаходзяцца.

Вось і нядаўна хто прыйшоў на абедню ў Пакроўскі сабор, стаў сьведкам дабрачыннасьці. Сабор наведалі прадстаўнікі сельскагаспадарчай фірмы «Амега» з Беласточчыны, яны перадалі сто тысячаў рублёў на аднаўленьне праваслаўнай царквы ў вёсцы Мураванка Шчучынскага раёну. Гэтая акцыя арганізацыйна была падрыхтаваная і забясьпечаная фондам «Бацькаўшчына».

Гасьцей за добрую справу падзякаваў епіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Валянцін, вернікі прасьпявалі «Доўгія лета».

На разьвітаньне з кароткай прамовай выступіў прэзыдэнт фірмы Міраслаў Цялушэцкі, дарэчы, беларус па паходжаньні. Ён сказаў, што гэтая акцыя фірмы толькі пачатак, увогуле «Амега» мае намер быць сталым спонсарам на Беларусі.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## СЫНДРОМ «ВЯЛІКАЙ КАЗАРМЫ»

Рада Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі выступіла з заявою, у якой недвухсэнсоўна выказала свае патрабаваньні да ВС і Савету Міністраў рэспублікі. Крайняя, не дапускаючая пярэчаньняў катэгарычнасьць фармулёўкаў наўрад ці здольная каго-небудзь зьдзівіць. Сягоньня хіба толькі гультай не выпрабоўвае сілы ў жанры ўльтыматуму ды ня зьбірае подпісы пад чарговым мэмарандумам сусьветнага значэньня. Аб сутнасьці жа выкладзеных патрабаваньняў гаварыць дарэчы. Злашча тэма размовы вельмі ўжо няпростая — вывад эканомікі з стану паўраспаду.

Якім жа бачыцца гэты шлях аўтарам заявы? У першым абзацы, які ідзе за прэамбулай, чытаем: **«Прыняць нарматыўныя акты, якія рэглямэнтуюць і гарантуюць заключэньне прадпрыемствамі, аб ´яднаньямі ды арганізацыямі, разьмешчанымі на тэрыторыі СНД, гаспадарчых дамоў на пастаўку прадукцыі ў 1992 годзе і іх выкананьне (у аб ´ёмах ня ніжэй за ўзровень 1990—1991 гадоў)».** Ня ўзор прамалінейнасьці, але здагадацца можна: з гэтага часу вышэйшым уладам РБ прадпісваецца замяшчэньне функцыяў, якія раней выконваў Цэнтар.

Ну вось. А мы наіўна лічылі, быццам развіцьцё гарызантальных сувязяў — прэрагатыва гаспадарчыў суб ´ектаў, гэта значыць саміх таваравытворцаў. Напэўна нас моцна дэзарыентавала інфармацыя з-за «бугра». Ніяк не можам сабе ўявіць, каб, скажам, аўтамабілебудаўнікі Дэтройту зьвярнуліся ў сэнат з патрабаваньнем прызваць да парадку сталеліцейшчыкаў Пітсбургу.

Ах, вось яно што! Там рынак, а ў нас яго няма. Дазвольце, але хто будзе ўсталёўваць рынычныя адносіны, асвойваць іх мэханізмы: парлямэнтарыі ці ўсё ж гаспадарнікі?

Перашкодаў, вядома, шмат, але далёка ня самыя апошнія зь іх — замшэлыя стэрэатыпы кіраваньня вытворчасьцю. Іх атрыбуты агульнавядомыя: традыцыйная арыентацыя на адміністратыўную вэртыкаль. За прыкладамі справа не стаіць.

У якасьці ваднаго зь іх прывядзём другі пункт патрабаваньняў, сфармуляваных у гэтай заяве: **«Дамагчыся адмовы ад прад ´яўленьня спажыўцамі й пастаўшчыкамі дадатковых патрабаваньняў па сустрэчнай пастаўцы прадукцыі, а таксама аплаты ў валюце».** Калі з канстэксту выключыць марна названых спажыўцоў (не ад добрага жыцьця ў абмен на сыравіну ідуць заморскія банкноты ды дэфіцытны тавар), дык скрозь мудрагелістае спалучэньне словаў праб ´ецца просьценькая думка: «Забараніць бартэр!» Яно як бы й слушна: бартэр ня ўпрыгожвае рынак эпохі разьвітых таварнаграшовых адносінаў. Толькі ж спрабавалі ўжо змагацца з гэтым рэліктам эканамічнай сьвядомасьці. Асуджалі, «ужесточали», забаранялі.

Але й праз гады, у зусім іншых умовах, зноў выстаўляюцца тыя ж патрабаваньні, і ў гэтым хоры настойліва гучаць галасы вучоных (заява, напомню, зробленая ад імя навукова-прамысловае асацыяцыі), тут ужо мімаволі ўзьнікае пытаньне: якім жа павінен быць узровень навуковай думкі, каб так відавочна ігнараваліся пачатковыя пастулаты сусьветнай эканамічнай практыкі. Бартэрны абмен — ня дзівацтва й ня хімэра, а аб ´ектыўная рэальнасьць, рэальнасьць жа не адменіш росчыркам пяра. Пад прэсам усемагчымых адміністратыўных забаронаў яны ня зьнікаюць, а толькі адыходзяць у сфэру «ценявых» адносінаў і пры найменшым паслабленьні прэсінгу зноў легалізуюцца.

**(Працяг на стар. 2)**

# ШКОЛЬНЫЯ УРОКІ ФЭСТЫВАЛЮ

У мінулым месяцы ў Гародні адбываўся фэстываль «Балтыйская тэатральная вясна-92». У гэтым годзе значна пашырылася геаграфія ўдзельнікаў фэстывалю. Тэатральныя калектывы з Польшчы і Нямеччыны, Фінляндыі і Эстоніі, Летувы і Беларусі, Расеі і Латвіі на працягу тыдня працавалі на адной сцэне. Цешыла й тое, што арганізатары фэстывалю адшукалі магчымасьць запрасіць у якасьці гасьцей ня толькі прафэсійных крытыкаў, але і актораў (якія былі не задзейнічаныя ў спэктаклях), рэжысёраў розных тэатраў, гэтым самым даўшы магчымасьць набыць яшчэ адну школу прафэсійнага майстэрства.

Сур ´ёзную падставу для роздуму аб палітры сучаснага тэатру прапанаваў Нацыянальны тэатар г. Мангэйма-Шнабэль сваім спэктаклем «Канфэрэнцыя птушак» (Ж. К. Кар ´ер), у якім прадэманстраваў выдатныя пластычныя навыкі маладых актораў. Прычым стварэньне пластычнага малюнку дзеючых асобаў выходзіць па-за межы паказу зьнешніх адметных рысаў, а з ´яўляецца падставай для пошуку характару, унутранага стрыжню кожнага вобразу.

У гэты самы шэраг можна паставіць і працу маладых актораў з Санкт-Петэрбургу ў спэктаклі «Фарсы, або Новыя сярэднявечныя французкія анегдоты».

Асвойваючы сцэну ў характары пляцовачнага тэатра, выканаўцы ня толькі віртуёзна валодаюць уласным целам, але зь лёгкасьцю, выдумкай трансфармуюць кожны прадмет **у гульні, кожную драбніцу касьцюму.** Вынаходніцтва, фантазія празь меру і таму ад такога відовішча павявае маладосьцю. Гледачы з задавальненьнем успрымаюць гульню, якая прапаноўваецца зале, дзе зусім разбураецца рампа, і акторы і гледачы ў гэтым кругазвароце вясельля аб ´ядноўваюцца ў адзінае.

Выдатнае валоданьне формай паказаў тэатр Крэатур з Бэрліну ў спэктаклі «Крама з пернікамі» (Г. Шульц). Тут у дзіўным вобразе ўжыўся, здавалася б, сцэнічны парадокс. З аднаго боку, зьнешні шэраг гаворыць нам аб тым, што гэта — тэатар абсурду, супергратэску, а разам з тым гэта — тэатар жывы, які адразу пазнаюць.

Усё, што адбываецца на сцэне (успаміны героя п ´есы аб яго дзяцінстве, зьвязаныя з пэўным домам, пэўнымі людзьмі) — няпрыгожа. Няпрыгожа, але... вельмі натуральна. І, дзякуючы таму што яно жывое, яно прыгожае.

Гэта думка была выказаная на нарадзе крытыкаў рэжысёрам з Польшчы і, думаю, яна выключна датычыць гэтага спэктакля, у якім злучана тое, што, здавалася, злучыць немагчыма.

Спэктаклі эстонскага тэатру «Эндла» з горада Пярну — «Ганчарня Эпп Піларпарт з Пуньяба» (П. Валак, П. Падаяс) і «Шкляны звярынец» (Т. Уільямс), фінскага тэатру з гораду Лахці далі глыбокую «інфармацыю да роздуму» у сэнсе пошуку драматургічнага аўтарскага падтэксту. Відаць, самае складанае — пры пераpаджэньні літаратурнай асновы ў сцэнічны варыянт ня проста захаваць зыходны тэкст, а перадаць умоўны сэнс, падтэкст паміж радкамі, і менавіта гэты глыбінны пласт выбудаваць у пэўны вобразны шэраг.

На мой погляд, у вабодвух спэктаклях думкі і пачуцьці аўтараў-драматургаў раскрыты калі не да канца, то ў любым выпадку, з пачуцьцём разуменьня.

Але зьвернемся да беларускіх спэктакляў. Чатыры калектывы мелі магчымасьць паказаць сябе на фэстывалі і, на жаль, кожнаму зь іх давялося выслухаць шмат няпрыемных слоў.

Але я б не хацела далучацца зараз да выключна адмоўных адзнакаў, а паспрабавала б падумаць, у чым прычына яўных няўдачаў.

Да прыкладу, спэктакль «Ку-ку» па п ´есе М. Арахоўскага (г. Менск) адназначна прызнаны крытыкай, як псеўдаабсурдны.

Не магу не пагадзіцца з Т. Арловай, тэатральным крытыкам з Менску, што ў накірунку тэатра абсурда на беларускай сцэне робяцца першыя крокі. А яны заўсёды могуць быць памылковымі.

Рэжысёр А. Гузій, асвойваючы складаны матарэял, які не бяз пэўных драматургічных недасканаласьцяў пайшоў па шляху «першага пляну» — тэкставага. Дзеяньні п ´есы адбываюцца як бы ў двух вымярэньнях: рэальнае жыцьцё героя Вадзіма і яго думкі, яго выабражэньне, зь нейкімі надуманымі дзеючымі асобамі.

Спэктакль будуецца, як хваравітае бачаньне, якое мучыць героя, не дае яму падставы гарманічна існаваць у рэчаіснасьці.

І вось тут, як мне думаецца, пастаноўшчыка чакае галоўны пралік. Спачуваючы герою ў яго мытарствах, ён не бярэ на сябе адказнасьцьісьці па зваротнаму шляху... і захапляцца ім.

Узгадайце, у вядомым фільме «Той самы Мюнхаўзэн» М. Захараў, ствараючы асяродак злоснага непрыняцьця, дзе дзівак па-за «агульным ладам» падносіць героя Янкоўскага да вышыні ня толькі вялікага фантазёра, а чалавека-тварца СВАЙГО, ні з кім і ні з чым не параўнальнага ўнутранага сьвету, ім створанага. Жывога. І таму прыгожага.

Але... Гэта быў бы іншы спэктакль і магчыма зь іншым выканаўцам. Але хто ведае, магчыма, менавіта такі крок раптам «павярнуў» бы п ´есу Арахоўскага ў нечаканы бок.

Няхай прабачыць мяне рэжысёр за такія нечаканыя парады, але мне здалося, што нягледзячы на вострую крытыку спэктаклю «Ку-ку», падстава для цікавага сцэнічнага дзеяньня ад самага пачатку ўсё ж ёсьць.

І спэктакль мог бы быць паўнакроўным. Як, дарэчы, і «Паўлінка» (Гарадзенскі тэатар), калі б пастановачны калектыў паклапаціўся ня толькі аб узнаўленьні старога спэктаклю, а пашукаў новыя шляхі, каб прачытаць купалаўскую драматургію, дзе закладзеныя не нейкія фактурныя нацыянальныя тыпажы, але й агульны дух непрыняцьця фальшу, пратэст супраць таго, каб зламаць канкрэтную асобу, канкрэтны чалавечы лёс.

Маладая студыя Віталя Баркоўскага па-за афіцыйнай праграмай выставіла сваю працу — «Апошняя п ´еса Траплёва».

Крытыкі адмовіліся абмяркоўваць убачанае. Хоць зноў-такі, мне здаецца, любы прадукт творчых ідэй мае права на абмеркаваньне. Няхай нават і не на вельмі прыемнае.

Амаль у поўнай цемры, з лёгку падсьвечанай нафтавай лямпай, некалькі актораў граюць дзіўнае дзеяньне. У ім адсутнічаюць звыклыя дыялёгі, у ім — папросту шэраг розных дзеяньняў, якія кожны з гледачоў можа тлумачыць па-свойму.

Гучыць кавалак з Чэхаўскага маналёгу п ´есы Траплёва і... груба абрываецца, так і не даграўшы да канца... Жанчына ўзгадвае нейкі рамантычны эпізод у сваім жыцьці, але ўспаміны перарываюцца тым, што яе перыядычна некуды адносяць... І ў рэшце мы бачым у кучы людзей, якія няпрыгожа спачываюць, з паўадкрытым ротам, якія храпуць і зусім абыякавыя...

Што гэта? Назваць спэктаклем тое, што ўбачылі, складана. На мой розум, гэта хутчэй за ўсё эцюдная замалёўка да спэктаклю, які мог бы яшчэ быць.

Адзін з гледачоў, што сядзеў побач, кажа мне: «Як жа аўтар ня любіць чалавецтва! — А мне хацелася запярэчыць.— Так, не любіць, не любіць тое чалавецтва, якое «прасыпае» кожнага асобнага чалавека».

Можа ня варта перакрэсліваць тое, што нам ня вельмі блізка, нават чужое — тую форму сцэнічнага існаваньня, якую прапаноўвае Баркоўскі? Магчыма тут мы маем справу зь іншым шляхам спробаў і памылак, які, хто ведае, падчас прыводзіць да нечаканых вынікаў?

Можна бясконца аналізаваць ўсё тое, што было ўбачана на фэстывалі. Адно з галоўных дасягненьняў у тым, што ён даў магчымасьць убачыць такую колькасьць аўтарскіх поглядаў, стыляў, накірункаў, што ўсё ўбачанае можа стаць сапраўдным натхненьнем да новых пошукаў і экспэрымэнтаў.

**С. КАРМАЗІНА,**
**г. Гародня.**

# ЦІ ЁСЦЬ «МОЦАРТЫ» Ў ВАЎКАВЫСКУ?

Для вядомага ў Гародні й вобласьці педагога й кампазытара Віталя Канстанцінавіча Радзівонава такога пытаньня не йснавала. Калі ў Ваўкавыску ёсьць музычная школа, то павінныя быць і маленькія «моцарты». Трэба толькі іх адкрыць.

У верасьні мінулага году тэлефонны званок кампазытара ўскалыхнуў пэдагагічны калектыў музычнай школы. Радзівонаў прапанаваў сваю дапамогу ў працы зь дзецьмі, якія спрабуюць ствараць музыку. Першым пабуджэньнем дырэктара школы М. А. Невара было сказаць: ды ў нас такіх амаль няма. Але завуч А. П. Кананoвіч была ўпэўнена ў таленавітасьці сваіх выхаванцаў. Гэта ж яны паставілі на сцэне некалькі гадоў таму дзіцячую опэру «Казка аб мёртвай царэўне і сямёх волатах» на музыку выкладчыка школы Е. Логінава. Вядома, шмат хто з тых дзяцей ужо пакінулі сьцены школы, але хіба новыя дзеці менш таленавітыя?

Алена Пятроўна ведала, што спрабуюць складаць свае мэлёдыі на фартэп ´яна сёстры Юля і Оля Каралені, Лена Янкоўская ды й іншыя выхаванцы. А вось дапамагчы дзяўчынкам аформіць гэтыя мэлёдыі на паперы рукі не даходзяць, ды й няма ў пэдагогаў глыбокіх ведаў па кампазыцыі.

І тут нечаканы падарунак з вабласнога цэнтру ў асобе энтузыяста па працы зь дзецьмі Радзівонава. Зразумела, трэба было ўхапіцца за гэтую нагоду абайма рукамі. Вопытнага пэдагога сустрэлі ў Ваўкавыску з радасьцю й надзеяй. Завуч і выкладчык ужо вызначылі дзяцей, якіх не задавальняла толькі вучэбная праграма і якія хацелі паспрабаваць сябе ў стварэньні музыкі. Доўга шукаць такіх дзяцей ня трэба было. Яны былі навідавоку: захопленыя вучобай, з добраю пасьпяховасьцю, уседлівыя за музычнымі інструмэнтамі, цікаўныя і дапытлівыя ў сьвеце музыкі.

Кожную суботу Радзівонаў сьпяшаўся з Гародні ў Ваўкавыск, дзе яго чакалі юныя мясцовыя таленты. З кожным пэдагогам займаўся паасобку, вёў па сваёй асаблівай сьцяжынцы, дапамагаў аформіць яшчэ няясныя задумы ў невялікія, але каларытныя п ´ескі. Не падказваючы гатовых рашэньняў, ён імкнуўся разьвіць самабытнасьць кожнага юнага музыкі.

І вось прайшло 7 месяцаў існаваньня клясы кампазыцыі ў Ваўкавыскай музычнай школе. Натуральна, ў пэдагогаў ды ў Радзівонава ўзьнікла думка: праслухаць і заахвоціць дзяцей, якія навучыліся самыя пісаць музыку. Але ў якой форме праслухаць? Недарэчна наладжваць паказённаму іспыт дзецям, што самахоць узяліся за творчую працу. Нарадзілася ідэя правесьці ў школе першы фэстываль юных кампазытараў. Першы для школы, для горада і наагул для ўсіх музычных школаў вобласьці. Гэтую ідэю падтрымала абласное аддзяленьне Беларускага фонду культуры і аддзяленьне дзіцячага фонду імя Леніна.

Фэстываль — гэта, бязумоўна, моцна сказана. А калі быць бліжэй да жыцьця, то трэба прызнаць, што адбыўся звычайны канцэрт нязвычайных музыкаў, якія сыгралі п ´есы, што яшчэ й ніколі ня гучалі. Гэта адбылося 17 красавіка, пачалося ў 17.00 і скончылася цераз паўтары гадзіны.

Перад слухачамі прагучалі творы чатырнаццацёх юных «моцартаў». П ´есы былі самыя разнастайныя па жанрах і па інструмэнтоўцы: вальсы, полькі, п ´есы-абразкі, мэнуэты і нават... танга. Гучалі фартэп ´яна, баян, скрыпка, віяланчэль. Прычым іншыя дзеці пісалі ня толькі для таго інструмэнту, на якім яны практыкуюцца. Так Наташа Дзебыш, якая займаецца па клясе акардыёну, напісала п ´есу для скрыпкі, і такую, што яна здалася прываблівай пэдагогу Сьвятлане Леанідаўне Семяняка.

Канцэрт пачаўся з п ´ескі «Капеж» самага юнага кампазытара, першаклясьніка Наташы Кайновай. П ´ескі даволі яркай для васьмігадовай дзяўчынкі. А скончыўся цэлым каскадам сонечных, сьветлых і цёплых п ´есаў трэцяклясьніцы Леры Янкоўскай, якая выканала іх упэўнена й паканцэртнаму. Акрамя таго, яна яшчэ сьпела два свае рамансы на словы (каго б вы думалі?) — Фета ды Аляксея Талстога. Словам, ведай нашых!

Трэба сказаць, што пяцёра Ваўкавыскіх «моцартаў» ужо йгралі перад вялікай тэлевізыйнай аўдыторыяй, выступаючы ў канцы году па абласным тэлебачаньні. Гэта Валерыя Янкоўская, Вольга і Юлія Каралені, Наталія Дзебыш, Алена Бортнік ды адзіны ў асяроддзі юных кампазытараў мужчына — чацьвёртаклясьнік Дзьмітры Уласенка (кляса баяну). А ўсе дзяўчынкі — піяністкі. Назваў іх поўнымі імёнамі, як і патрэбна называць тых, хто ўжо выступае на тэлебачаньні.

Кожны кампазытар прадстаўлены дзьвума-трыма п ´есамі. Запомніліся дзьве песьні, складзеныя Ленай Бортнік,— «Калыханка» на свае словы і «Край мой беларускі» на словы Ніла Гілевіча.

Атрымалася яркае сьвята дзіцячай музычнай творчасьці, якое запомніцца надоўга. Яно пакінула многа радасьці і бацькам, і пэдагогам, і самім дзецям. А якое сьвята без падарункаў? Праўда, на больш значныя падарункі грошай у арганізацыяў, што ўзялі шэфства над фэстывалем, не хапіла, але дзеці атрымалі цікавыя кнігі па музыцы, якія ўручыла ім старшы экспэрт абласнога аддзелу Беларускага фонду культуры О. В. Рудава.

Не абавязкова ўсе юныя «моцарты» стануць зь цягам часу кампазытарамі, тым болей вядомымі. Чаго ж тады марнаваць час на захапленьне, якое можа ня стаць прызваньнем?

— Тварэньне музыкі разьвівае вобразную фантазыю, дапамагае дзецям набыць навыкі творчасьці. А гэтыя якасьці спатрэбяцца сёньняшнім юным музыкам у іхнім будучым жыцьці, якую б прафэсію яны сабе ня выбралі,— гаворыць Віталь Канстанцінавіч Радзівонаў.

**Герольд КІСЯЛЕЎ,**
**г. Ваўкавыск.**

# ПОКАЗКІ

**— Чаму ты заўсёды, калі я пачынаю сьпяваць, выходзіш на балкон? — пытае жонка мужа.**

**— Бо не хачу, каб суседзі падумалі, што я цябе б ´ю.**

* * *

**— Татка, татка, ты толькі паглядзі: у гэтага дзядзькі на галаве няма ані воднага воласа!**

**— Ціха, сынку, бо дзядзька пачуе.**

**— Дык ён пра гэта яшчэ ня ведае?!**

* * *

**— Ты чуў навіну? Нашага камінара зьбіла машына.**

**— Я заўсёды гавaрыў, што вадзіцелі езьдзяць, нібы шалёныя. Аднак лётаць па дахах — гэта ўжо нахабства!**

* * *

**— Які транзыстар вам больш да спадобы: на кароткія ці на доўгія хвалі? — пытаецца прадавец у міліцыянэра.**

**— На кароткія. Мая кватэра малая вельмі...**

* * *

**Урачыстая рэгістрацыя шлюбу.**

**— Ці хочаце вы мець жонкай прысутную тут Кацярыну? — пытаецца ў жаніха сакратарка сельсавету.**

**— Не!**

**— Дык чаму ж вы цягнулі аж да самай рэгістрацыі? — зьдзіўляецца сакратарка.**

**— Бо вы першая, хто пра гэта запытаўся!**

* * *

**— Зараз я раскажу вам, як ўзьнік першы чалавек,— гаворыць выкладчык Закону Божага.**

**— Не, лепш раскажыце, як узьнік трэці,— адгукаюцца вучні.**

* * *

**Малады чалавек пытаецца ў цыганкі, што яго чакае ў будучыні.**

**— Да 40 гадоў ты будзеш жыць па-жабрацку.**

**— А што будзе потым?**

**— А потым ты прызвычаішся...**

* * *

**— Якая розьніца паміж вярблюдам і беспрацоўным?**

**— Вярблюд можа цэлы месяц працаваць і ня піць, а беспрацоўны можа ўвесь месяц піць не працуючы!**

* * *

**— Мой татка вельмі падобны да Кебіча.**

**— Чаму?**

**— Абяцаў падарыць на дзень нараджэньня лісапэд, а прынёс ролікавыя канькі.**

